БЕЛАРУСЬ — ГЭТА СЬВЯТОЕ

# МАЛАДЫ ФРОНТ

№ 1, СЬНЕЖАНЬ, 1998. Выдаецца нацыянальным рухам МАЛАДЫ ФРОНТ.



СЛОВА РЭДАКТАРА

## КРАІНУ ВЫРАТУЕ САПЁР



У ПЭЎНЫ ЧАС перад кожнай арганізацыяй, якой дадзена вырашаць будучыню краіны, паўстае пытаньне выбару шляху. Што абраць – аб'ектыўнае дабро ці аб'ектыўнае зло? Выпрабаваньне спакусай, своеасаблівая праверка на вашывасьць.

Давялося выбіраць падчас і пасьля Вясны'96. Тады гэта зрабіў неаформлены маладзёвы рух. Зрабіў зараз пабудаваны ўжо Малады Фронт. Канкрэтна.

Сапраўдны ваяр абірае веру, надзею, любоў. Нявер'е, безнадзейнасьць і нянавісьць – шлях слабакоў, іх доля. Сапраўдная любоў ня мае страху.

...Яшчэ нядаўна мы сядзелі на Панікоўцы, пілі піва, талохаліся пляшкамі й казалі шматзначна адзін аднаму: "За снайпэра!.." Лухта. Рэальны, усемагутны Бог паказвае свой шлях усім, у каго адкрытыя сэрцы. Той, Хто стварыў нашую краіну, Хто любіць нас, хоча даць нам перамогу. А сапраўдная перамога, рэальная свабода – у Ім. Ён не дае падробкі.

Беларусь выратуе ня той, хто забівае, а той, хто абясшкоджвае. Беларусь выратуе сапёр. Паверце.

**Аляксей ШЭІН**

КІРУНАК

## ЛЮБІ БЕЛАРУСЬ!

ВІТАЮ ЦЯБЕ, шаноўны чытачу! Я ўпэўнены, што Ты, таксама як і тысячы маладых людзей ува ўсіх кутках нашае краіны, лічыш сябе беларускім нацыяналістам, і што Табе прыходзілася шмат разоў тлумачыць родным, сябрам, знаёмым ды незнаёмым людзям, чым ёсьць сапраўдны нацыяналізм і што значыць сёньня быць беларускім нацыяналістам. Спадзяюся, Ты здолееш ім давесьці, што мы не шавіністы, не паліцаі, не фашысты й не імпэрыялісты, што мы не зьбіраемся заганяць расейцаў у рэзэрвацыі й што Зянон Пазьняк не праводзіў рэкрутаваньне патэнцыйных забойцаў для ўдзелу ў расейска-чачэнскай вайне. Цябе пакінулі ў спакоі, магчыма, твой нядаўні суразмоўца цяпер будзе па-



чувацца ня так нэрвова, калі на ягоныя вочы патрапіць сьвятое для кожнага беларускага нацыяналіста спалучэньне колераў. Але – зьвярні ўвагу Ты тлумачыў нацыяналізм ад адваротнага: мы НЯ тое й НЯ гэта, мы НЕ такія й НЯ гэткія!". Твой суразмоўца не атрымаў станоўчае інфармацыі.

Ня варта засмучацца! Чалавецтва ў сваёй гісторыі скрозь выкарыстоўвае вызначэньне ад адваротнага. Нават найсьвяцейшыя рэчы почасту вызначаюцца ад адваротна-

ДЗЕЙНАСЬЦЬ

## БУДЗЬ ДЫ-ДЖЭЕМ АДРАДЖЭНЬНЯ!

НАПАЧАТКУ сьнежня пабачыў сьвет першы том новага пакаленьня "Збораў Беларушчыны" – "Ды-джэй Адраджэньня".

Нагадаем, што "Зборы '98" – гэта першы ў Беларусі ўнівэрсальны падручнік беларушчыны, лякнічны й ёмісты канспэкт, выкладзены ў папулярным ракурсе. Менавіта ў ім можна знайсьці дакладную інфармацыю пра сучасную беларускую культуру й легендарную гісторыю, зьвесткі пра беларускі рок і алімпійскія рэкорды, інтэлектуальныя гульні й рэцэпты беларускай кухні.

Першы том "Збораў" – гэта асновы працы са школьнікамі й студэнтамі, правілы й прыёмы прапаганды беларушчыны сярод сучаснае моладзі.

Поўная сэрыя "Збораў Беларушчыны" будзе складацца з наступных тамоў: II – інтэлектуальныя гульні (тэксты віктарынаў, шоў, тэстаў), III – папулярная беларушчына (гісторыя, геаграфія, геалёгія, кампутары, кухня), IV – беларускі рок (рок-гурты, біяграфіі, тэксты й акорды) і V – беларускі спорт (алімпійскія рэкорды, чэмпіёны, каманды).

Замовіць усю сэрыю "Збораў Беларушчыны" можна праз тэл. 249-92-47 (Вольга). Кошт кожнага тому – 0.15 USD паводле адпаведнага курсу.

Выпуск "Збораў

## КАНТАКТЫ "МАЛАДОГА АДРАДЖЭНЬНЯ":

| | |
|---|---|
| **Менск** | праз Малады Фронт |
| **Горадня** | Сяргей, вул. Шчорса 30-37, т. 44-37-29; Андрэй, т. 22-34-68 |
| **Магілеў** | Аляксей, т. 41-69-77 |
| **Наваполацак** | вул. Маладзёжная 1-46, т. 7-35-41 |
| **Ворша** | Алег, вул. Магілеўская 106-16, т. 4-80-20 |
| **Маладэчна** | Сяргей, вул. Палявая, 39, т. 3-36-60 |

ДЗЕЙНАСЬЦЬ

# БУДЗЬ ДЫ-ДЖЭЕМ АДРАДЖЭНЬНЯ!

Беларушчыны" – гэта адзін з кірункаў працы маладзёвага аб'яднаньня Маладое Адраджэньне, устаноўчы сход якога адбыўся ў Менску напрыканцы кастрычніка.

Старшынём Маладога Адраджэньня быў абраны Павал Севярынец, які падкрэсьліў, што галоўнай задачай арганізацыі зьяўляецца "выхаваньне ў эўрапейскасьці й беларушчыне хаця б аднаго пакаленьня маладых, якое стане непераадольным бар'ерам для любых імпэрыяў і дыктатураў".

Мэтадам дзейнасьці Маладога Адраджэньня прызнанае фармаваньне й падтрымка разнастайных асяродкаў мадэрновае, альтэрнатыўнае, нефармальнае беларускай культуры; наданьне наступальнага й відовішчнага характару працэсам беларусізацыі.

Ужо на сёньняшні дзень МА мае ў сваім актыве каля дзьвюх сотняў выступаў шоў-гуртоў зь віктарынамі й конкурсамі беларушчыны па школах, ПТВ і ВНУ, дзясяткі канцэртаў беларускіх рок-гуртоў і дыскатэкаў са спэцыяльнай праграмай, некалькі праведзеных маладзёвых апытаньняў з колькасьцю рэспандэнтаў 500-1000 чалавек. Аб'яднаньне прадстаўленае ў Менску, Горадні, Магілеве, Лідзе, Віцебску, Наваполацку, Барасьці, Маладэчне й іншых гарадох Беларусі.

Ініцыятары стварэньня МА лічаць, што "калі ўдасца выхаваць хаця б адно пакаленьне ў беларушчыне – гэта будзе самая грандыёзная перамога за ўсе часы нашае шматпакутнае гісторыі. Толькі карэнным, глыбінным адраджэньнем культурніцкай сьвядомасьці можна дабіцца стварэньня моцнай беларускай нацыі".

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

МАЛАДОЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ МАЛАДОГА АДРАДЖЭНЬНЯ

"Маладое Адраджэньне" – арганізацыя беларускае моладзі, якая выступае за Адраджэньне й разьвіцьцё сучаснае нацыянальнае культуры ў найшырэйшым сэнсе.

Задача "Маладога Адраджэньня" – у бліжэйшыя 3–4 гады зрабіць беларускую й эўрапейскую культуру найбольш моднай, папулярнай сярод моладзі.

Мэтад "Маладога Адраджэньня" – фармаваньне й падтрымка разнастайных асяродкаў мадэрновае, альтэрнатыўнае, нефармальнае беларускае культуры; наданьне наступальнага й відовішчнага характару працэсам беларусізацыі.

Нашая дзейнасьць – шоў, канцэрты, дыскатэкі, інтэлектуальныя конкурсы й экалягічныя віктарыны, інфармацыйныя праекты й кампутаровыя тэхналёгіі, мастацкія выставы й спартовыя спаборніцтвы.

Для нас Беларусь – гэта сьвятое.

## 7 ПРЫНЦЫПАЎ МАЛАДОГА АДРАДЖЭНЬНЯ

1. Нашая галоўная задача – выхаваць у эўрапейскасьці й беларушчыне хаця б адно пакаленьне маладых, і гэтае пакаленьне стане непераадольным бар'ерам для любых імпэрыяў і



дыктатураў.

2. Мы не павінныя гвалтоўна насаджаць, убіваць беларускае ў галовы. Трэба толькі далікатна й зацікаўлена крануць струны, нацятыя ад нараджэньня ў кожнага тутэйшага – і чалавек загучыць сам.

3. Мы ня пнемся нацягваць сюды Эўропу, бы цёплую коўдру, мы ня мроім перанесьці Беларусь на тысячу кілямэтраў на Захад. Мы творым эўрапейскую Беларусь кожны на сваім месцы.

4. Мы змагаемся ня супраць Расеі ці Лукашэнкі, мы стаім за Беларусь.

5. Сапраўдны беларускі стыль – наступальны й відовішчны. Мы праводзім шумныя шоў, дыскатэкі, конкурсы, віктарыны з прызамі, ладзім клюбы ды сэкцыі. Мы даем актыўнае моладзі інфармацыю, музыку, спорт, і дасягаем свайго эфэктам і выгадай. Мы адкрытыя, яркія, выклікоывыя, пасьміхаемся ўсімі зубамі. За намі ўся моц нацыі, гісторыі, краіны. Мы – Ды-джэі Адраджэньня!

6. Для МА важна як вялікае, так і сьмешнае, мы займаемся як масавай, так і элітнай культураю. МА вызнае і сур'ёзную навуковую дзейнасьць, і дасьціпны сьцёб, і вулічныя шоў, і дамашнія гурткі, і гульню, і працу.

7. Наш час – сёньня! Заўтра можа быць позна. Тому мы пачынаем зараз.

## СТАНОВІШЧА

Мы пачынаем у складаных варунках. Сёньняшні нацыянальна-культурны стан беларускае моладзі можна акрэсьліць як становішча хворага пасьля зацяглага крызысу, калі неабходная

**МАЛАДОЕ АДРАДЖЭНЬНЕ**



інтэнсыўная тэрапія. Маладыя людзі дэзарыентаваныя, спрадвечныя чалавечыя каштоўнасьці ў заняпадзе. Расьце наркаманія, п'янства, злачыннасьць. Сыстэма беларускамоўнай адукацыі разгромленая.

Амаль уся моладзь, асабліва ў гарадох, размаўляе па-расейску. Расейскае тэлевізія, музыка, літаратура карыстаюцца папулярнасьцю нароўні з амэрыканскімі й эўрапейскімі ўзорамі. Беларушчына адчувальна прайграе ўсім тром замежным плыням: яна прысутная, але ў якасьці другога гатунку.

Тым ня менш, абсалютная бальшыня маладых беларусаў – за незалежную Беларусь. 2/3 школьнікаў і студэнтаў вызнаюць у якасьці палітычнага, эканамічнага й культуровага арыентыру Эўропу.

Нават у варунках рэжыму пасярод моладзі расьце попыт на ўсё беларускае. Стрымліваюць гэты пад'ём два асноўныя чыньнікі: з аднаго боку, недастаткова зарганізаваная прапанова беларушчыны ад нацыянальных сілаў; з другога, пастаяннае прыніжэньне нацыянальнае культуры расейскімі й афіцыёзнымі СМІ.

Варункі для разгортваньня шырокае прапаганды, нацыянальнае адукацыі й культуры пасярод моладзі – унікальна найлепшыя ў параўнаньні з астатнімі ўзроставымі катэгорыямі. Высокі ўзровень сучаснае беларускае музыкі, літаратуры й мастацтва дазваляе разьвіць самую шырокую й разнабаковую дзейнасьць.

Справа – за Арганізацыяй.

## МАЛАДОЕ АДРАДЖЭНЬНЕ СЁНЬНЯ

На сёньняшні дзень МА мае ў сваім актыве каля сотні выступаў шоў-гуртоў зь віктарынамі й конкурсамі беларушчыны па школах, ПТВ і ВНУ, дзясяткі канцэртаў беларускіх рок-гуртоў, дзясяткі дыскатэкаў са спэцыяльнай праграмай (ад школьных да клюбных), некалькі праведзеных маладзёвых апытаньняў з колькасьцю рэспандэнтаў 500–1000 чал.; 5 перавыданьняў "Збораў Беларушчыны" (абсягам 30-50 старонак і агульным накладам больш за 3000 асобнікаў); некалькі буйных адукацыйных і культурніцкіх праектаў. МА прадстаўленая ініцыятыўнымі групамі ў Менску, Горадні, Магілеве, Лідзе, Віцебску, Наваполацку, Берасьці, Воршы, Маладэчне й іншых гарадох. Агулам гэта некалькі сотняў хлопцаў і дзяўчатаў, якія працуюць дзеля Адраджэньня. МА мае выхад у шырокую інфармацыйную прастору, дэпо досьведу й тэарэтычнага матар'ялу.

Для ЦЯБЕ "Маладое Адраджэньне" – гэта магчымасьць раскрыцца ў творчасьці, набыць неабходны досьвед у працы з моладзьдзю й удасканаліцца самому..

## МАЛАДОЕ АДРАДЖЭНЬНЕ ЗАЎТРА

Ажыцьцяўленьне праграмы МА на тры наступныя гады ўлучае тры этапы:

I. Восень'98–лета'99.

– рэкляма Маладога Адраджэньня;

– арганізацыя сыстэмы пульсуючых мерапрыемстваў (шоў, дыскатэкаў, канцэртаў, конкурсаў) у найбольш спрыяльных і моцных нацыянальна-культурных маладзёвых асяродках;

– выданьне й распаўсюд пашыраных (да 70 стар.) "Збораў Беларушчыны" на беларускай, ангельскай ды расейскай мовах;

– падрыхтоўка вядучых, дыск-жакеяў і каардынатараў на спэцыяльных сэмінарах;

– стварэньне сыстэмы распаўсюду беларускае літаратуры, касэтаў і сымболікі;

II. Восень'99–лета'2000.

– інфармаваньне грамадзкасьці аб дзейнасьці МА;

– пашырэньне сыстэмы мерапрыемстваў на бальшыню гарадоў Беларусі, з упорам на нефармальныя аб'яднаньні: клюбы й тусоўкі;

– выданьне й распаўсюд спэцыялізаваных (для школаў, ВНУ, ПТВ) "Збораў Беларушчыны": у кожную навучальную ўстанову краіны – свой "Збор".

– наладжваньне выпуску бюлетэняў і выданьне касэтаў, зборнікаў і брашураў у галінах папулярнае музыкі, правапісу, экалёгіі.

III. Восень'2000–лета'2001.

– стварэньне сеткі мерапрыемстваў МА ува ўсіх раёнах Беларусі разам з узбуйненьнем рэгіянальных цэнтраў, функцыянаваньне шэрагу клюбаў, канцэртавых і дыскатэчных кропак, рухавых шоў-гуртоў;

– шырокія праграмы падтрымкі творцаў;

– правядзеньне агульнабеларускіх сэмінараў, канфэрэнцыяў, асамблеяў;

– разгортваньне замежных праектаў і міжнародных кантактаў МА.



КІРУНАК

# ЛЮБІ БЕЛАРУСЬ!

Пачатак на стар. 1 га, нават пра Бога кажуць, што "Ён ёсьць сьвятлом, і ў Ім няма ніякае цемры". "Ніякае цемры" гучыць нават больш зразумела (натуральна, толькі для тых, хто яшчэ не спазнаў Бога. Астатнім тлумачэньні не патрабуюцца), чым "сьвятло". Такім чынам, мы праводзім акрэсьленыя межы паміж "нашым" і "НЯ нашым".

Праблема тут толькі ў тым, шаноўны чытачу, што, папершае, у нашым з Табою выпадку такіх "НЕ" прыйдзецца ўжыць незьлічоную колькасьць разоў і, па-другое, нам з Табой вядома, што мы – не (пакуль што) партызаны й не героі падпольля, – мы ды-джэі Адраджэньня! А гэта значыць: побач з намі павінна быць сьветла й весела ды, натуральна, ніякіх адмоўных эмоцыяў. Як кажуць немцы: "Jedem das seine" (кожнаму – сваё).

Далей я прапаную Табе, шаноўны чытачу, пашукаць тыя словы, што маглі б загучаць ня толькі на пляцох, але і ў дыскатэчных, канцэртных залях, на спартовых і культурніцкіх мерапрыемствах, у эфіры маладзёвых радыёстанцыяў. Гэтыя словы мусяць натхняць, запальваць вочы, весьці за сабою ў чароўны й загадкавы сьвет Беларушчыны.



Такім чынам, мы з Табою пачынаем! Па-першае, гэта мусяць быць **простыя** словы! Ня трэба выглядаць недасяжна разумным – будзь прасьцей, і людзі да Цябе пацягнуцца. Фразы кшталту: "У кантэксьце паняцьцёвакатэгарыяльнага апарату эмпірычны досьвед філёзафаў-экзыстэнцыялістаў сьведчыць, што канцэпцыя нацыянальнага адраджэньня выдатна карэлюецца з парадыгмай вызвольнага руху" пакінь для дзесяціклясьніцаў, што спрабуюць "строіць" Табе вочкі падчас правядзеньня "Шоу Беларушчыны" ў школцы на ўскраіне Менску.

Па-другое, Ты мусіш пазьбягаць штампаў, асабліва тых, што маюць прапагандысцкае адценьне. "Я ганаруся сваёй Беларусьсю!" – на такі высакапарны выраз ты ў лепшым выпадку атрымаеш адказ кшталту: "ну і сьцяг табе ў рукі!". Таксама ня трэба гуляць у "свайго ў дошку". "Я просты хлопец, я хлопец зь вёскі!" альбо "...нас было сем пацаноў" ніколі ня стануць для цябе паролем для пранікненьня ў душы гопнікаў. Будзь сабой!

Па-трэцяе, ні ў якім разе не злоўжывай апэляцыямі да гісторыі: яе, гісторыю, трэба ведаць – але толькі дзеля таго, каб мець глебу й арыентавацца ў **сёньняшнім** жыцьці. Шмат для каго з моладзі перамога над футбольнай камандай з Галяндыі мае большае значэньне, чым Грунвальдзкі разгром нямецкіх крыжакоў у XV ст. Памятай, што мы жывем не ў ВКЛ, а ў Беларусі. І за вакном – канец XX стагодзьдзя. Зарыентаваўся?

Тады – апошняе. Твае словы павінны гучаць упэўнена й спакойна. Ня трэба спрабаваць выглядаць ані Сакратам ("я ведаю, што нічога ня ведаю"), ані фанатыкам-камікадзэ. Лепшым пацьверджаньнем Тваіх словаў будзе Твая ў іх упэўненасьць. Памятай, што тысячы маладых беларусаў адначасова з Табой гавораць тыя ж словы па ўсёй краіне, ад Буга да Дзьвіны й ад Прыпяці да Нёмана.

На такой мажорнай ноце дазволь мне, шаноўны чытачу, скончыць гэты артыкул. Я спадзяюся, Табе было прыемна правесьці нядоўгі час разам зь некаторымі маімі думкамі. Думаю, калі наступным разам дзяўчына з блакітнымі, як азёры нашае з Табой Радзімы, вачыма запытаецца ў цябе: "Прабачце, я буду па-расейску. Что нужно делать, чтобы стать белорусской националисткой?", Ты ўсьміхнесься ёй і з асалодаю вымавіш два словы: Любі Беларусь!

**А. ЯНУКЕВІЧ**

НАРАДА

# ЦІ ЗЬМЕНІЦЦА СЫСТЭМА КІРАВАНЬНЯ?

6 СЬНЕЖНЯ адбылася чарговая Цэнтральная Рада Маладога Фронту, дзе былі вырашаны бягучыя пытаньні арганізацыі Сойму й працы МФ. Найбольш гарачыя спрэчкі разгарнуліся падчас абмеркаваньня структуры кіраўнічых органаў. Як падкрэсьліў Сяржук Паўленка, гарадзенскі сустаршыня МФ, "эфэктыўнасьць сустаршынства можа быць абумоўленая наступнымі фактарамі: 1) узроўнем дэмакратыі ў грамадзтве; 2) забесьпячэньнем рэгіянальных лідэраў апаратыўнай інфармацыяй; 3) наяўнасьцю фінансавых сродкаў. Аніводная з гэтых умоваў у нас не выконваецца. Апроч таго, узьнікла праблема адказнасьці ў лідэраў.

У такіх варунках фактычна менскі сустаршыня выконвае абавязкі адзінага старшыні МФ. Ці ня варта было б прызнаць гэты факт і абраць на Сойме аднаго старшыню?"

Але паводле словаў Паўла Севярынца (менскага сустаршыні МФ), "адзіны старшыня – гэта небясьпека адрыву Менску ад рэгіёнаў, што можа прывесьці да страты структураў, у іншых абласьцёх. Тым больш, нельга не заўважаць, што зьявіліся новыя маладафронтаўскія лідэры ў Берасьці й Віцебску і пры абраньні адзінага старшыні гэтыя людзі не атрымаюць магчымасьць самарэалізавацца".

На Цэнтральнай Радзе абмяркоўваліся таксама пытаньні ідэалёгіі МФ. У сваім выступе, прысьвечаным гэтай тэме, Яўген Скочка выказаў меркаваньне, што маладафронтавец абавязаны сумяшчаць у сабе рысы як інтэлектуала, гэтак і фізычна падрыхтаванага радыкала.

На Цэнтральнай Радзе была абрана рэдкалегія бюлетэню Маладога Фронту, яго галоўны рэдактар і зацьверджаная новая назва газэты – "Малады Фронт".

Наступная ЦР МФ прызначана на 10 студзеня 1998 году.

**А**

УГОДКІ

# ГОРАДЗЕНСКАМУ МАЛАДОМУ ФРОНТУ – 1 ГОД

19 КАСТРЫЧНІКА споўнiўся год, як стварылася Горадзенская арганізацыя Маладога Фронту. Гэта не такі вялікі тэрмін, як 10-годзьдзе БНФ, але і не такі малы ў часы змаганьня з рэжымам.

Горадзенская арганізацыя (дарэчы, другая паводле колькасьці) таксама зрабіла ўнёсак у гэтае змаганьне.

Што ж прынёс гэты год нашай арганізацыі?

Па-першае, мы здолелі сфармаваць добрую Раду, якая мае вялікі інтэлектуальны патэнцыял.

Па-другое, створаныя структуры амаль ува ўсіх важнейшых населеных пунктах Горадзеншчыны. Напрыклад, у такіх, як Ліда, Слонім, Ваўкавыск і інш.

За гэты год Малады Фронт правёў шэраг мерапрыемстваў.

Гэта і дабрачынная дапамога Дому дзіцяці, канцэрты беларускай рок-музыкі. Выдатным мерапрыемствам была Алімпіяда Маладога Фронту, у якой удзельнічала каля 100 чалавек. Маладафронтаўцамі наладжаны выставы беларускіх касэтаў і кніг.



Малады Фронт Горадзеншчыны першы прыняў прысягу на вернасьць Беларусі **на радзіме К. Каліноўскага**.

Актыўны ўдзел гарадзенскія маладафронтаўцы прымалі ўва ўсіх палітычных акцыях Горадні і Менску.

Безумоўна, у арганізацыі шмат праблемаў. На жаль, пакуль што мы ніяк ня можам наладзіць шоў Беларушчыны ў школах, а таксама дыскатэкі...

На пэрспэктыву Малады Фронт ставіць наступныя задачы:

– пашырэньне агітацыі сярод моладзі;

– правядзеньне сацыялягічных дасьледваньняў;

– актывізацыя культурніцкай і спартовай дзейнасьці;

– наладжваньне вучобы актыву;

– выданьне ўласнае газэты.

Узімку адбудзецца чарговы Сойм Маладога Фронту, і горадзенскай арганізацыі будзе што давесьці сваім калегам зь іншых рэгіёнаў.

Пакуль на нашай зямлі будзе такая моладзь – Беларусь будзе жыць!!!

**Сустаршыня Маладога Фронту Сяржук ПАЎЛЕНКА**

## ДАРЭЧЫ...

НЯ ТАК даўно горадзенскі МФ быў рэструктураваны й цяпер працуе пераважна ў двух кірунках: культурніцкім і спартовым.

Культурніцкі аддзел, пад кіраўніцтвам Сяржука Антусевіча, з посьпехам правёў напрыканцы лістапада акустычны канцэрт гуртоў "Deviation" і "Воображаемые люди". Тых, хто хацеў трапіць на гэтае мерапрыемства, аказалася ў некалькі разоў больш, чым змагла ўмясціць заля на паўсотні чалавек. А пра дыскатэку, якая адбылася пасьля канцэрту, па Горадні яшчэ некалькі тыдняў хадзілі ўсялякія чуткі. Пакрыўджаныя апалітычныя школьнікі, якія не трапілі на яе, раскупілі амаль усе касэты з запісамі беларускамоўных гуртоў з цьвёрдым намерам правесьці ў будучым сваю дыскатэку а la Малады Фронт.

Спартовы ж аддзел гарадзенскага МФ рыхтуецца да правядзеньня ўвесну 1999 года Алімпіяды Беларускай Народнай Рэспублікі з самым шырокім спэктарам спаборніцтваў (ад гульні ў шахматы да лёгкаатлетычнага прабегу). Горадзенскія спартоўцы заклікаюць усіх сьвядомых маладафронтаўцаў краіны падтрымаць гэтую ініцыятыву.

**А. В.**

ПАЛІТЫКА

# МАЛАДЫЯ КАНСЭРВАТАРЫ РЭГІСТРУЮЦЦА

СЯБРЫ Управы Маладога Фронту падалі ў Міністэрства юстыцыі дакумэнты на рэгістрацыю маладзёвага аб'яднаньня "Беларускія маладыя кансэрватары". Мэтай стварэньня арганізацыі зьяўляецца злучэньне й выхаваньне моладзі на грунце беларускіх нацыянальна-кансэрватыўных дэмакратычных ідэалаў, а таксама спрыяньне інтэлектуальнаму, фізычнаму й духоўнаму разьвіцьцю маладога пакаленьня.

Паводле словаў арганізатараў, галоўнымі кірункамі дзейнасьці БМК будзе распрацоўка ды правядзеньне конкурсаў праектаў для вырашэньня маладзёвых праблемаў, наладжваньне канфэрэнцыяў, сэмінараў, дыскусіяў ды круглых сталоў.

Старшынём БМК абраны Павал Севярынец, намесьнікамі старшыні – Андрэй Пятроў ды Аляксей Янукевіч.

Папярэднюю згоду на ўваход у БМК дала Горадзенская арганізацыя Хрысьціянска-дэмакратычнага Саюзу моладзі.

"У будучыні, – адзначыў Андрэй Пятроў, – пры ўмове ўсталяваньня дэмакратычнай дзяржавы і правядзеньня свабодных выбараў, БМК сумесна з БНФ і іншымі арганізацыямі правага цэнтру змогуць выступіць блёкам ў стварэньні кансэрватыўнае партыі".

**В. А.**

РЭГІЁНЫ

# АДУКАЦЫЯ АД МАЛАДОГА ФРОНТУ

У КОБРЫНІ, дзе Малады Фронт толькі разгарнуў сваю дзейнасьць, у сярэдняй школе № 8 для 10-11 клясаў было праведзенае Шоў Беларушчыны й дыскатэка. Настаўнікі беларускай мовы і гісторыі, што сачылі за сваімі навучэнцамі, даведаліся з нашых шоў шмат новага і, як прызналіся пазьней, падвысілі свой адукацыйны ўзровень. Што ўжо тады казаць пра школьнікаў...

Дарэчы, наяўнасьць здаровага нацыянальнага грунту ў Кобрыні адчувальная: некалькімі тыднямі раней сьцены гораду былі расьпісаныя лёзунгамі "Свабоду Шыдлоўскаму", "Далоў рэжым", "Незалежнасьць". А надпіс "Жыве Беларусь!" на галоўным унівэрмагу красуе да гэтага часу й ніхто нават не наважваецца яго зьнішчыць.

АБМЕН ДОСЬВЕДАМ

# ЯК ПРАВІЛЬНА СЯДЗЕЦЬ

**Часта ўдзельнікам масавых акцыяў пратэсту судзьдзі даюць так званыя "суткі". Што гэта такое і з чым гэта ядуць?**

ПАСЬЛЯ вынясеньня прысуду вас адвязуць у прыёмнік-разьмеркавальнік ГУУС на вуліцы Акрэсьціна.

У дзяжурцы вас абавязкова абшукаюць, адбяруць гадзіньнік, запальнічку, грошы, прымусяць выцягнуць шнуркі з абутку ды курткі [абшукваньне даволі часта праводзіцца нядбала й магчымасьць пранесьці штосьці ў камэру цалкам рэальная – **З досьведу сяброў рэдкалегіі**]. Вашыя рэчы будуць запісаныя ў спэцыяльны блянк, які вам прапануюць падпісаць. Калі ўсё ўнесена дакладна – падпісвайце. Усе рэчы згодна зь пералікам будуць вернуты пасьля адбыцьця тэрміну. У гэтую ж паперку павінны быць унесены й пашпарт, які забяруць таксама.

Пасьля такіх працэдураў вас зьмесьцяць у камэры №1 ці №2 [неабавязкова – **З досьведу сяброў рэдкалегіі**]. Але не хвалюйцеся, тут вы прабудзеце прыкладна да 22 гадзінаў, пасьля чаго пачнецца развод.

Вас перавядуць на другі паверх, пастрояць, зачытаюць па прозьвішчах, абвесьцяць дату ды час вашага вызваленьня, здымуць адбіткі пальцаў [апошняе неабавязкова – адбіткі могуць зьняць у РАУСе, а могуць і наагул не зьнімаць **З досьведу сяброў рэдкалегіі**]. Затым адвядуць у камэру.

Камэры ўяўляюць сабою прастакутнік прыкладна 12 на 8 мэтраў [плошча некаторых камэраў удвая меншая – **З досьведу сяброў рэдкалегіі**] зь вялікім тапчаном-нарамі пасярэдзіне ды парашай (унітаз як у старых грамадзкіх прыбіральнях) [мусім паправіць калегу: гэта не параша, гэта луза – **З досьведу сяброў рэдкалегіі**] ды іржавым кранам над ёй.

Вось у гэтай прасторы Вы і правядзеце адмераны судом час адсідкі.

Пра кантынгент – размова асобная. Звычайна на "суткі" трапляюць тры катэгорыі: а) ціхія п'яніцы, якіх здаюць жонкі; б) надзорнікі – асобы, якія выйшлі зь месцаў зьняволеньня ды знаходзяцца пад мянтоўскім наглядам і не пасьпелі своечасова дадому; в) тыя, што спрабавалі здаць ці набыць валюту й былі затрыманыя.

Але ЛЮДЗІ паўсюдна застаюцца людзьмі, таму наладзіць стасункі праблемы не складзе. Гэта лёгка зрабіць пры адной умове: калі Вы ня будзеце камплексаваць, будзеце трымацца з годнасьцю. Нават тут, за кратамі, у простай размове вы знойдзеце прыхільнікаў.

А цяпер некалькі парадаў па выжываньню:

1) Тую ежу, што прыносяць, асабліва першую страву, есьці ня раю – пасьля яе расстройваецца страўнік. [гэта ад нязвыкласьці, некаторыя сябры рэдкалегіі кушалі ўсё на працягу 10 сутак і сьцьвярджаюць, што ў ВУЗаўскіх страўнях бывае й горш – **З досьведу сяброў рэдкалегіі**]


Намесьнік, сустаршыняў Маладога Фронту Яўген Скочка выходзіць з "Акрэсьціна". Паглядзіце на ягоны твар: хіба "на сутках" цяжка?

2) Даволі карысная рэч пры расстройствах страўніку – звычайны чорны сухар. Мэтад прыгатаваньня вельмі просты – адламіце скарынку з хлеба і высушыце ўнутры батарэі. На нарах сушыць ня варта, могуць пагрызьці мышкі. У рэшце рэшт сухарык прыемна проста пасмактаць перад сном.

3) Якасьць пітное вады на Акрэсьціна вельмі нізкая – вада сьмярдзіць хлоркай, таму яе лепш адстойваць у кубку.

4) Тыя, хто паліць – не сьпяшайцеся выкідаць у парашу недапалкі (бычкі). Калі скончацца цыгарэты, тытунь будзе вельмі дарэчы.

5) Калі Вы атрымаеце перадачу – уважліва паглядзіце ды зьверце зь перапісам. Былі выпадкі, калі зьнікалі цыгарэты.

6) Калі вы перадаеце нешта для свайго сябра, абавязкова ўключыце ў перадачу цыгарэты, запалкі, часнык, цукеркі, і сьвежую прэсу, бо недахоп інфармацыі пераносіцца за кратамі вельмі цяжка. Абавязкова нарэжце сала ці каўбасу (заточкай у камэры сала рэзаць ня вельмі зручна).

7) Не ўключайце ў перадачу тыя прадукты, што хутка псуюцца, іх усё адно ня возьмуць.

8) Перадайце за краты якую-небудзь рэч, кшталту футра, якую б можна было пакласьці пад бок, пасьцяліць на нары.

9) Перадайце таксама цёплыя рэчы. Хаця на другім паверсе і цёпла, затое на першым – халодна. Як ведаць, куды закіне лёс (ці вертухай) арыштанта.

Прыкладам, асабіста я за 5 сутак прайшоў "хаты" №№1, 2, 4 - на першым паверсе (усе халодныя), 6,7 - на другім (цёплыя).

Дробных вам тэрмінаў ды лёгкай адсідкі.

**Сяржук СЯКЕРА**


Валадарка. Тут сядзець ужо сур'ёзна. Парады дасьведчаных у наступных нумарах "МФ".

НАВУЧАЛЬНЫ ПРАЦЭС

# СЬВЯТА НА ЖУРФАКУ

ФАКУЛЬТЭТ журналістыкі зараз знаходзіцца ў стане адхадняку пасьля сьвяткаваньня дня першакурсніка. Гледзячы на хмурныя твары выкладчыкаў, можна сьцьвярджаць, што сьвята атрымалася. Праўда, прысутнічаць на ім мелі магчымасьць толькі студэнты першага курса і 150 асобаў старэйшых, якім пашанцавала атрымаць спэцыяльныя запрашэньні зь пячаткай факультэта й асабістым подпісам дэкана.

Сьпяшаюся заўважыць, што такое пасьвячэньне ў студэнты журфак бачыў упершыню. Першакурсьнікі, якія правучыліся ўсяго 2 месяцы за нейкія дзьве гадзіны пасьпелі разабрацца з усім, што ім прыйшлося недаспадобы. Не забыліся нічога: ні выкладчыка эканамічнае тэорыі, які заснуў на лекцыі, ні забароны апранаць джынсы на заняткі па фотажурналістыцы, ні тыранічных мэтадаў выкладаньня расейскае мовы, і нават выказалі свае думкі пра імідж прэзыдэнта, які для Аляксандра Рыгоравіча "нішто, але жатва – усё".

Пікам праграмы стала стрыптыз-шоў, названае імем выкладчыцы расейскае мовы (дарэчы, намесьніцы дэкана па выхаваўчай працы). Стрыптыз быў сапраўдным, толькі, як высьветлілася, распранаўся грымаваны хлопец. Усеагульную радасьць студэнтаў выклікаў момант, калі стрыптызэр, кокетліва здымаючы апошні пантофель зь дзесяцісантымэтровым абцасам, выпадкова трапіў ім у выкладчыцу антычнае

Працяг на стар. 8



МЕРКАВАНЬНЕ

# ВОЛЬНЫ ДРУК СЁНЬНЯ

У гаворках на тэму маладых незарэгістраваных выданьняў нярэдка натрапляеш на зычаньні "сьмела выходзіць за межы звычайнае журналістыкі" альбо "засьцерагацца быць падобнымі да нашай дэмакратычнай прэсы". Рыхтык тое ж, почасту выказваецца і ў лістох на рэдакцыйныя адрэсы. Такія парады ўзьнікаюць – а значыць, нямала тых, каму недаспадобы як заскарузласьць дзяржаўнага афіцыёзу, гэтак і сухасьць апазыцыйнага інфармаваньня (у шэрагу беларускіх газэтаў тутака выбіваецца хіба "Наша Ніва"). Таму й павялічваецца аўдыторыя новапаўсталых вольных выданьняў, бо попыт на новае, арыгінальнае, суб'ектыўнае выклікае прапанову. Зазірнем жа ў лябірынты тае прапановы.

Найбольшай увагі заслугоўваюць праекты народжаныя зь ініцыятываў маладога пакаленьня. Заўважна адрозьніваюцца з агульнага рэчышча выданьні моладзевае правіцы, да чыіх вольнадумных ідэяў, дзякаваць Богу, яшчэ не дабралася бескампрамісная рука партыйна-апазыцыйнае цэнзуры. На шчасьце, ня ўсе шляхі друку ёю заблякаваныя. Тым ня менш, ейнае нядрэмнае вока як-ніяк, але на зьмест уплывае – мусіць штохвілю адбаць пра свой "імідж". Аднак, пэўна, цісьне, гох як цісьне на сьветлыя дэм. функцыянэраўскія галованькі выслоўі накшталт "безь беларусаў белы сьвет будзе непаўнавартасным", якія мае нахабства дазваляць сабе гомельскі "Нацыяналіст". А назоў 'шчэ аднае моладзевае газэты "Рокаш" (старабел. "паўстаньне") аматараў барацьбы "паводле Гандзі" й пагатоў у калатун кідае. А мо' ў трасцу.

Свае месьцейка засьпеу заняць і "Сымболь" – "літаратурна-ідэалягічнае выданьне", як вызначаюць яго стваральнікі. Радыкальная канкрэтыка выказваньняў – якраз тое, чаго зараз прагне моладзь.

Тымчасам гучныя першыя крокі робяцца ня толькі ў сталічным сьвеце, але ўсё часьцей пра сябе заяўляе й правінцыя. Апроч згаданага "Нацыяналіста" зь места панад Сожам (шквал воплескаў!) узварушаньне ёсьцека й на Заходнім Палесьсі: баранавіцкае аб'яднаньне "Рубон" распачало выпуск аднайменнае газэты й у першым жа нумары абвясьціла пра набор у ваенізаваную сэкцыю. Пакуль яшчэ не ўлясох, якімі надта ж слаўная зямля палеская. Зь нецярплівасьцю чакаем новых нумароў.

Ня сьпіць і левы лягер дакладней , ягоная скрайняя частка, анархісты, якім глыбока запаў у душу досьвед іхных заходнеэўрапейскіх паплечнікаў, што з усяе моцы пяліся стварыць у Эўропе чырвоны левы рух з апірышчам на маладых працоўных і рэд-скінаў. Як вынікі гэткіх летуценьняў – і "АК-47", дзе апроч эпатажнага назову ёсьць толькі запэўніваньні, што скін "непрэменна" мусіць быць левым, і "Малады Рабочы" (Салігорск) з дачыста зьдзёртай у бальшавіцкае "Лимонки" рубрыкаю "Промывка мозгов: как надо понимать". Не патурбаваліся нават хоць-бы зьмяніць парадак словаў ці, прынамсі, на беларускую мову перакласьці. Падаецца, сынтэз расейскіх прыёмаў з эўрапейскай (няхай і левай) рыторыкай сумесь, калі не грымучая, дык цяжкастраўная.

**Алесь МІКСОВІЧ, для "МФ".**

# Tech МАЛАДЫ ФРОНТ

*Тэхнічная брыгада Маладога Фронту прымае ў свае шчыльныя шэрагі піплоў з талентамі ў галінах праграмаваньня, мастацкага сысопства, кампутаровага дызайну й графікі. Цёпла вітаем юзэраў здольных да набору.*

***Чакаем штачацьвер на Варвашэні, 8.***

**ШТОПАНЯДЗЕЛАК А 17-Й ГАДЗІНЕ**

**КУЛЬТУРНІЦКІЯ СЭМІНАРЫ**

***ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА***

**Псыхалёгія, беларушчына, шоў, фэномэны, нацыянальная ідэя. ДЛЯ ЎСІХ!**

**ВАРВАШЭНІ, 8 (УПРАВА БНФ) ПАНЯДЗЕЛАК, 17:00**




НАВУЧАЛЬНЫ ПРАЦЭС

## СЬВЯТА НА ЖУРФАКУ

Пачатак на стар. 7 літаратуры. Карацей кажучы – дасталося ўсім.

Урэшце наступіў сама ўрачысты момант – пасьвячэньне. Выкладчыкі нават замерлі ад прадчуваньня нядобрага. І нездарма... На сцэну высыпаў увесь першы курс, а за ім пад аплядысмэнты й воклічы выпаўз студэнт другога курса, абматаны бел-чырвона-белым сьцягам. Разам зь першакурсьнікамі ён на роднай мове чытаў прысягу перад зьбялелымі выкладчыкамі. Напружаньне зьнялі дзяўчаты, якія выбеглі на сцэну і пачалі пасьвячаць навабранцаў мыльнымі бурбалкамі.

Сьвята сапраўды атрымалася: яго сумныя вынікі пакуль што моўчкі вісяць над студэнтамі, але выкладчыкі зь нездаровай радасьцю нагадваюць пра сэсію.

***БЮЛЕТЭНЬ МФ З ЗАДАВАЛЬНЕНЬНЕМ СУСТРАКАЕ ЧЫТАЦКУЮ КРЫТЫКУ Й ТВОРЧАСЬЦЬ.***

***ПРЫМАЕМ АБВЕСТКІ***

**МАЛАДЫ ФРОНТ**
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Заснавальнік і выдавец МАЛАДЫ ФРОНТ.

**РЭДАКТАР:** Аляксей ШЭІН
**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:** Павал СЕВЯРЫНЕЦ, Вольга АНЦЫПОВІЧ, Сяржук ПАЎЛЕНКА, Алесь АСІПЦОЎ, Аляксей ЧАРНЯЕЎ.

**ПАШТОВАЯ АДРЭСА:** Менск, вул. Варвашэні, 8. "Для Маладога Фронту"
**НАКЛАД:** 299 асобнікаў.
На правах нутраное дакумэнтацыі.

Рэдакцыя не нясе адказнасьці за недакладнасьці ў аўтарскіх матар'ялах.
Гледзішчы аўтараў могуць не супадаць з пазыцыяй рэдакцыі і нацыянальнага маладзёвага руху МАЛАДЫ ФРОНТ.